# НАША СВАБОДА

№75(162) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

20 ЛІПЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




**Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА віншуе калегаў з «Белорусской деловой газеты» з выхадам тысячнага нумара і жадае далейшых поспехаў і творчага плёну**

## Помста за памідор

Сяргей Лапцеў, які падчас лыжнага забегу 3 ліпеня патрапіў памідорам у А.Лукашэнку, падвергся днямі нападу.

Увечары 17 ліпеня ён разам з іншымі прадстаўнікамі ініцыятыўнай групы па збору подпісаў за вылучэнне А.Ярашука збіраў подпісы каля гастранома па вуліцы Прытыцкага ў Мінску. Да іх падышлі некалькі дзецюкоў і прапанавалі прайсці з імі, матывуючы загад тым, што яны «з органаў».

Сяргея Лапцева схапілі за рукі і завялі ў сквер у раёне плошчы Прытыцкага і з размаху ўдарылі яго аб дрэва. Потым білі ўжо ў твар, забралі пэйджэр і грошы. Пры гэтым нападнікі прыгаворвалі: «Мы цябе адвучым на прэзідэнта руку падымаць».

Па звароце ў клініку з-за атрыманых пашкоджанняў С.Лапцеву давялося застацца там на ноч. На наступны дзень напісаў заяву аб нападзе ў міліцыю.

За кідок у Лукашэнку Сяргею Лапцеву прысудзілі некалькі сутак арышту, але Лукашэнка зрабіў ласку, і таго амніставалі. Аднак цяпер зразумела, чаго вартае дараванне Лукашэнкі: помста ўсё ж адбылася. Відаць, С.Лапцеў зараз думае, што лепш бы ён адседзеў той штрафны тэрмін.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Антончык пакінуў арэну

19 ліпеня на прэзідэнцкім марафоне адбылася невялікая сенсацыя: адзін з патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты Сяргей Антончык падаў у Цэнтрвыбаркам заяву аб зняцці сваёй кандыдатуры з далейшай барацьбы. «Я перайшоў стотысячную планку для далейшага ўдзелу ў барацьбе яшчэ два дні, але даў каманду спыніць збор подпісаў. Я здымаю сваю кандыдатуру і выходжу з прэзідэнцкай гонкі», — заявіў Сяргей Антончык. Сваё рашэнне палітык патлумачыў «палітычнай сітуацыяй» на Беларусі; па-першае, сярод 20 кандыдатаў выбаршчыкам будзе цяжка выбраць дастойную фігуру, а таму апазіцыйным прэтэндэнтам неабходна аб'ядноўвацца; па-другое, удзел у зборы подпісаў «даў мне магчымасць адбудаваць структуру» арганізацыі «Рабочая самадапамога».

Нечаканым стаўся той факт, што С.Антончык «перадае ў дэмакратычную капілку свой вопыт, структуру» — на карысць Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Беларусі ў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі Міхаіла Марыніча. С.Антончык сказаў, што вылучэнне М.Марыніча кандыдатам у прэзідэнты было задуманае яшчэ два гады таму. Выступоўцы сцвярджалі, што менавіта пры жыцці пакойнага віцэ-спікера Вярхоўнага Савета 12 склікання Генадзя Карпенкі, які мог бы скласці дастойную альтэрнатыву А.Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах, «два гады таму, што ў выпадку прэзідэнцкіх выбараў Марыніч абавязкова прыме ўдзел у кампаніі».

Пры гэтым пасол не абышоў праблему знікнення апазіцыйных палітыкаў. «У нас дастаткова матэрыялу пра 7 гадоў трагічнага праўлення Лукашэнкі, у тым ліку няшчасце, што здарылася з Генадзем Дзмітрыевічам, таксама будзе раскрыта грамадству».

**Рыгор БУЯН**

# ЗУБРЫ – за волю для ўсіх

Фота Ул.ШЛАПАКА

Візыт кітайскага лідэра Цьзян Цзэмінь у Менск быў адзначаны акцыяй пратэсту руху супраціву ЗУБР. У той час, калі Цьзян Цзэмінь праязджаў па прашпэкце Скарыны ля Кастрычніцкай плошчы, дзесяць зуброў выйшлі на яе з плякатам «Свабоду Тыбету!» галовы хлопцаў былі абвязаны белымі стужкамі «Свабодны Тыбет». У руках яны трымалі таксама партрэты духоўнага лідэра Тыбету – Далай Ламы.

Актывісты руху выказалі салідарнасьць з прыгнечаным народам горнага раёну Кітаю, які доўгі час змагаецца за сваю незалежнасьць ад камуністычнага Кітаю. «Мы свабодныя людзі! Мы патрабуем свабоды для іншых людзей! І мы змагаемся за свабоду ў нашай краіне!» – заявілі ўдзельнікі акцыі.

Міліцыя запозьнена адрэагавала на акцыю пратэсту ЗУБРа. Толькі праз 10-12 хвілінаў пасьля ейнага пачатку да зуброў падбег АМАПавец, які дзяжурыў у гэты час, і пачаў вырываць плякат з рук аднаго з удзельнікаў акцыі. Да яго на дапамогу прыйшло некалькі мужчын бяз формы, якія не прадставіліся і пачалі запіхваць дэманстрантаў у мікрааўтобус. Калі хлопцы з ЗУБРа пачалі проста сядаць на асфальт, перашкаджаючы арышту, на дапамогу «тихарям» прыйшлі таксама салдаты, якія стаялі ў ачапленьні прашпэкту. Усяго было арыштавана восем зь дзесяці ўдзельнікаў акцыі. Іх адвезьлі ў Цэнтральнае РУУС Менску для складаньня пратаколаў.

# Расстрэльны пісталет выдаваўся напракат

*Як вядома, Аляксандр Лукашэнка аніяк не адрэагаваў на дасланыя яму адным з патэнцыйных кандыдатаў на прэзідэнцтва Уладзімірам Ганчарыкам копіі дакументаў, што тычацца зніккненняў вядомых беларускіх палітыкаў колішняга міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі і віцэ-спікера Вярхоўнага Савета 13-га склікання Віктара Ганчара і бізнесоўца Анатоля Красоўскага.*

Маўчаць чыноўнікі, чые імёны ў злачынным святле фігуруюць у згаданых дакументах: Уладзімір Навумаў, Юрый Сівакоў, Віктар Шэйман. Маўчыць камбрыг САХРу Зміцер Паўлючэнка. Нямыя і адпаведныя службы, што мусілі б тэрмінова заняцца расследаваннем выявіўшыхся фактаў па знікненні людзей. Таму грамадства ўслед за агульнымі пытаннямі «Дзе Ганчар?», «Дзе Захаранка?», «Дзе Завадскі?», «Дзе Красоўскі?» мае ўсе падставы задаваць уладам канкрэтныя пытанні і вымагаць на іх адказаў.

### Дзяржаўны пісталет

Уражвае гісторыя з пісталетам, якім у Беларусі выконваюцца смяротныя пакаранні і які верагодна мог стаць прыладай забойстваў зусім не па прызначэнні. У рапарце генерал-маёра Лапаціка, начальніка ГУКМ МУС, на імя міністра ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Навумава (які раней абвяргаў існаванне такога рапарту), чытаем:

*«6 мая 1999 года Шейман В.В. дал указание Сивакову Ю.Л. выдать пистолет, которым приводится в исполнение приговор о смертной казни, Павлюченко. Сиваков Ю.Л. дал указание Алкаеву О.Л. выдать хранящийся у него пистолет Павлюченко, что Алкаев и исполнил».*

Іншыя пацверджанні, што гэты пісталет выдаваўся ў неналежныя рукі, ёсць і ў рапарце У.Навумаву начальніка Следчага ізалятара №1 Камітэта па выкананні пакаранняў МУС, палкоўніка ўнутранай службы Алега Алкаева: *«Кроме того, хочу пояснить, что дважды, по распоряжению министра Сивакова Ю.Л., у меня для неизвестных целей был истребован специальный пистолет с глушителем, которым приводится в исполнение приговор. Первый раз 30.04 и возвращен 14.05. Второй раз 16.09 и возвращен 18.09.99 г. Первый раз, по письменному указанию замминистра Чванкина А.А., пистолет получил полковник милиции Дик В.И. и возвратил также он.*

*Второй раз пистолет получил лично адъютант министра по имени Владимир Павлович. О получении ими оружия имеется отметка в журнале учета выдачи оружия».*

Але навошта вышэйназваным асобам спатрэбіўся гэты сакрэтны пісталет, які належыць выключна спецгрупе па выкананні смяротных прысудаў? Паводле адмысловых правілаў гэтая зброя захоўваецца ў сейфе і выдаецца толькі ў дзень выканання смяротных судовых прыгавораў? Што яны рабілі з ім? Цьмяная спасылка на ліст, у якім прычына трактавалася як «вучэбна-трэніровачныя стрэльбы», надае гэтым эпізодам яшчэ большую таямнічасць. Хто трэніраваўся і вучыўся страляць з расстрэльнага пісталета? Дзе? Колькі патронаў выдаткаваў на трэніроўку? Чаму не трэніраваўся на сваім штатным пісталеце? Хто кантраляваў падарожжы пісталета па горадзе ці па рэспубліцы? Як магло наогул стацца, што вышэйшыя чыны дазвалялі браць такі пісталет літаральна напракат?

На ўсе такія пытанні генералы МУС не хочуць адказваць. Як абыдзена ўвагай пытанне, навошта камандзіру САХРу Зміцеру Паўлючэнку прысутнічаць на афіцыйнай працэдуры расстрэлу прыгаворанага да смерці чалавека?

Заканчэнне на стар.3

## Домаш здае подпісы

Ініцыятыўная група Сямёна Домаша падае ў выбарчыя раённыя камісіі болей як 144 тысяч подпісаў. Найбольшая іх колькасць сабраная ў Мінску – 27 тысяч, Гродзенская і Брэсцкая абласцях – па 23 тысячы, у Мінскай і Гомельскай – па 20,5 тысяч подпісаў.

## Мінск уладам не верыць

53% менчукоў лічаць, што вынікі маючых адбыцца выбараў прэзідэнта Беларусі будуць падтасаваныя. Такія вынікі апытання, праведзенага сацыялагічнай службай «Зеркало» БелаПАН 10–13 ліпеня. Месяц таму думкі аб падтасоўцы вынікаў выбараў прытрымліваліся 42% мінчан.

## Разумнае табло

У сталічным чыгуначным вакзале адкрыліся новыя білетныя касы і бюро даведкі. Там жа з'явілася інфармацыйнае табло, з якога можна даведацца не толькі пра час адпраўлення цягніка, але і пра колькасць і тып вольных месцаў на жаданы вам маршрут.

## На лячэнне жывёлы

Каля 430 мільёнаў рублёў будзе выдаткавана сёлета з бюджэту на захады па прафілактыцы і ліквідацыі сухотаў у буйной рагатай жывёлы. Гэта будзе зроблена ў межах Дзяржаўнай праграмы «Туберкулёз».

## Дзіцячы пленэр у Оршы

З 24 ліпеня па 2 жніўня ў Оршы пройдзе сёмы па ліку дзіцячы міжнародны пленэр, арганізаваны Беларускім саюзам мастакоў. Па выніках пленэру лепшыя карціны юных творцаў складуць выставу, якая адкрыецца 4 жніўня ў мінскім Палацы мастацтва. Падчас пленэра дзеці наведаюць музей У.Караткевіча ў Оршы і Дом-музей Марка Шагала ў Віцебску.

## Беларусы – Якуціі

Згодна з пастановай Савета міністраў, Беларусь выдзеліць 20 тысячаў долараў і гуманітарную дапамогу Рэспубліцы Саха (Якуція). Увесну гэты край моцна пацярпеў ад паводкі: 70 населеных пунктаў, 17 раёнаў.

## Конкурс – 3,3 чалавека на месца

У Гродне на 1.500 студэнцкіх месцаў у трох гродзенскіх універсітэтах прэтэндуюць 4.900 чалавек. Гэта 3,3 чалавека на месца і на 7% больш, чымсьці летась.

**НАДВОР'Е**

Віцебск +28 +32
Мінск +29 +33
Магілёў +29 +33
Гродна +21 +25
Брэст +20 +24
Гомель +29 +33

Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1445

АБЯЦАНКІ

## Да Дня ведаў і выбараў

Аляксандр Лукашэнка зрабіў чарговы папулісцкі ход. Цяпер ён вырашыў задобрыць студэнцтва. А.Лукашэнка заявіў, што «гатовы падпісаць адпаведны ўказ аб абавязковым забеспячэнні студэнтаў прыватных ВНУ стыпендыяй». Таксама, на ягоную думку, трэба зраўняць памеры аплаты за навучанне ў камерцыйных і дзяржаўных вышэйшых навучальных установах.

А.Лукашэнка вымагае, каб гэтае пытанне было разгледжанае да 1 верасня, то бок да даты прэзідэнцкіх выбараў.

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

## Ракета пад Шчучынам

Супрацоўнікі Упраўлення камітэта дзяржаўнай бяспекі па Гродзенскай вобласці выявілі ў лясным масіве непадалёк ад Шчучына часткі тактычнай цвёрдапаліўнай ракеты класа «Зямля-Зямля».

Цела і галаўная частка ракеты, агульнай даўжынёй 8 метраў былі знойдзеныя на месцы былой дыслакацыі часткі Ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння. Вайсковая частка дыслацыравалася ў гэтым раёне да 1991 года. Баявая вага знойдзеных рэштак ракеты складае 500 тонаў, маса цвёрдапаліўнага рухавіка па магутнасці эквівалентная 500 кілаграмам трацілу. Па звестках УКДБ, Міжгарнізонная ваенная пракуратура вырашае пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце выяўлення ракеты.

**Павел МАЖЭЙКА**

## Кангрэс паляшучак

Аналагу мерапрыемства, якое пройдзе 27 ліпеня ў Мінску, яшчэ ў Беларусі не было. Гэтым днём у Доме літаратара адбудзецца I Усепалескі жаночы кангрэс.

У ім возьмуць удзел прадстаўніцы жаночага полу з палескіх абшараў не толькі Беларусі, але і Украіны. За арганізатара сходу — Міжнародны жаночы фонд святой Еўфрасінні Полацкай на чале з пісьменніцай Валянцінай Коўтун. Да ідэі жаноцкага ўсепалескага кангрэса мае дачыненне і яшчэ адна пісьменніца — Святлана Алексіевіч, якая жыве зараз за мяжой.

За мэту кангрэса праз абмеркаванне самых разнастайных праблемаў – ад культурніцкіх да чарнобыльскіх – уважаецца эмансіпацыя і абуджэнне грамадзянскай свядомасці паляшучак.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

## Ці прыедуць Пуцін і Кучма на «базар»?

Міжнародная Хельсінкская федэрацыя, Беларускі Хельсінкскі камітэт, Маскоўская Хельсінкская група і Украінскі камітэт «Хельсінкі-90» звярнуліся да прэзідэнтаў Расіі і Украіны Уладзіміра Пуціна і Леаніда Кучмы з просьбай адмовіцца ад наведвання Беларусі да заканчэння выбарчай кампаніі ў гэтай краіне і, у прыватнасці, адмяніць запланаваную сустрэчу трох прэзідэнтаў на закрыцці Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» 25 ліпеня.

«Нашы арганізацыі працяглы час падкрэслівалі сур'ёзнасць сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Мы шматразова зазначалі, што выбары і рэферэндумы, на якіх грунтуецца дзеючы рэжым, не могуць лічыцца свабоднымі і сумленнымі», — гаворыцца ў пасланні. Аднак, зазначаецца ў дакуменце, «сёння няма прыкметаў паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека». «Наадварот, з'явілася новая інфармацыя, якая ўказвае, што вышэйшыя службовыя асобы дзяржавы, верагодна, маюць дачыненне да сур'ёзных злачынстваў, датычных невытлумачальных «знікненняў» вядомых грамадзянаў Беларусі», — канстатуюць праваабаронцы.

На гэтым фоне сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў Расіі і Украіны з Аляксандрам Лукашэнкам на цырымоніі закрыцця фестываля «Славянскі базар у Віцебску» можа быць успрынятая беларускімі выбаршчыкамі «як прамое ўмяшальніцтва ў прэзідэнцкую гонку і падтрымка канкрэтнага кандыдата», лічаць праваабаронцы.

Між тым, падкрэсліваецца ў пасланні, беларускія дзяржаўныя СМІ ўжо выкарысталі запланаваную сустрэчу трох лідэраў у прапагандысцкіх мэтах.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Малдова не можа без Саюза

У Малдове і непрызнанай Прыднястроўскай рэспубліцы стварацца народны грамадска-палітычны рух за саюз з Расіяй, Беларуссю і Украінай. Пра гэта 17 ліпеня ў Кішынёве паведамілі сустаршыні аргкамітэта руху — лідэр малдаўскага грамадска-палітычнага руху «Раўнапраўе» Валерый Кліменка і дэпутат Ціраспальскага гарадскога Савета Генадзь Кузьмічоў.

Новая арганізацыя выступае за развіццё міжпарламенцкіх сувязяў і уніфікацыю заканадаўства членаў будучага саюза. Для гэтага ў Вярхоўным Савеце Прыднястроўя створаная дэпутацкая група «ЗУБР», аналагічная тым, якія ўжо дзейнічаюць у парламентах Украіны, Беларусі і Расіі. «Малдаўскі рух мае намер пачаць збор подпісаў на карысць правядзення рэферэндуму аб уваходжанні Малдовы ў гэты саюз, пра'явіць іх затым уладам і патрабаваць выконваць волю народа», — заявіў Валерый Кліменка.

**Аляксей АРЭШКА**

## У дэфіцыту на цукар — сталічныя карані

Закрыты для СМІ кадравы «пераварот» у падпарадкаванай адміністрацыі Лукашэнкі гандлёвай кампаніі «Белая Русь», якая валодае манаполіяй на валютныя закупкі па імпарце цукру-сырцу, дазваляе толькі па адгалосках скандалу меркаваць аб сапраўдных прычынах ажыятажнага зараз дэфіцыту салодкага прадукту ў гандлі. Прыкладам, Жабінкаўскі цукровы завод Брэсцкай вобласці атрымаў пасля перапрацоўкі ў сакавіку ўсіх запасаў цукровых буракоў толькі 9.000 тонаў сырцу пры гарантаванай раней квоце для яго 103.000 тонаў. У чэрвені гэта абярнулася вымушаным прастоем прадпрыемства, якое на працягу ўсяго адных сутак можа вырабляць 706 тонаў белага цукру.

З-за таго, што ў Беларусі кошт на цукар стрымлівалі ад пачатку года ў 360$ за адну тону, а ў Расіі плацілі па 420$, то насельніцтва Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей атрымлівала мізэр прадукту з-за яго спекулятыўнага перапродажу. І хаця зараз на ўсе кругласутачная праца Гарадзейскага, Жабінкаўскага і Скідзельскага заводаў (Слуцкі на рамонце), пакаранне коштамі ўжо не стрымаць.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Траціна гродзенскіх прадпрыемстваў — стратныя

37% прадпрыемстваў Гродзеншчыны стратныя, на 131 прадпрыемстве зафіксавана зніжэнне тэмпаў вытворчасці, а рэнтабельнасць гродзенскіх прадпрыемстваў складае толькі 7,3%, замест неабходных 25%. Такія дадзеныя былі агучаныя 18 ліпеня на першай прэс-канферэнцыі Мікалая Кавалёва, нядаўна прызначанага старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю па Гродзенскай вобласці.

М.Кавалёў паведаміў, што ў 2001 годзе супрацоўнікі камітэта праверылі дзейнасць 932 суб'ектаў гаспадарання і прыватных прадпрымальнікаў Гродзеншчыны. Амаль у кожным з правераных суб'ектаў зафіксаваны парушэнні заканадаўства.

Паводле дадзеных камітэта, у 60% прадпрыемстваў вобласці, якія вырабляюць харчовую прадукцыю, рэалізуюцца няякасныя тавары.

**Павал МАЖЭЙКА**

## Хвалююцца гарнякі Палесся

Чарговая замена кіраўніка чакаецца ў калектыве унітарнага вытворчага аб'яднання «Граніт» у Мікашэвічах. Папярэдджане генеральнаму дырэктару Уладзіміру Цялькову прагучала ў мінулы панядзелак на пасяджэнні аблвыканкама, а 20 ліпеня ў пасёлак палескіх гранітаздабытчыкаў накіроўваецца прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын.

Па волі няспраўджаных абяцанак А.Лукашэнкі, якія пасля наведвання Мікашэвічаў 16.03.2000 г. даў 10 даручэнняў Саўміну, ведамствам і мясцовай уладзе, гарнякі пачынаюць бунтаваць. Нішто ў прынцыпе не змянілася да лепшага, апроч перапрусу кадраў у бальніцы, гандлі і на прадпрыемстве. Затаваранасць будаўнічым шчэбенем дасягнула 1 мільёна 300 тысяч кубаметраў. На 150 чалавек павялічылася колькасць беспрацоўных. Пратэрмінавана выкананне да 1 ліпеня 2001 года планаў па ўвядзенні аб'екта новага водазабору. Пры каштарысе праектна-будаўнічых работ у 1,9 мільярда рублёў выдаткавана ўсяго каля 300 мільёнаў. Якасная вада залягае за гранітным пластом, а людзі па-ранейшаму спажываюць так званую «верхаводку», утрыманне шкодных рэчываў у якой пераўшае максімальна дапушчальны ўзровень у 6-8 разоў.

Хлуснёй называюць гарнякі дадзеныя ім абяцанні, што буйнейшы ў Еўропе кар'ер атрымае доступ для сваёй прадукцыі на рынкі Расіі, Прыбалтыкі і Польшчы. Тэхніка, якая эксплуатуецца тут на працягу 25 гадоў, ужо няздольная драбніць граніт на так званы кубавідны шчэбень сусветнага стандарту.

**Галіна БАРАВАЯ**

ЗДАРЭННІ

## Заваліла мытны пераход

Ураганныя вятры хуткасцю да 20 метраў у секунду моцна «пакалашмацілі» старыя пабудовы, дрэвы і тэхніку на тэрыторыі Івацэвіцкага, Лунінецкага, Столінскага і Пінскага раёнаў.

18 ліпеня ў ВА «Івацэвічыдрэў» з рэек былі сарваныя 4 кансольна-казлавыя краны, адзін з якіх упаў на дах вытворчага цэха і праламаў бетонныя перакрыцці. 40% тэрыторыі Лунінецкага раёна апынуліся без электразабеспячэння з-за пашкоджанняў 20 слупоў і звалення на лініі прыдарожных дрэваў. Ад рэжучых асколкаў шкла і цвёрдых рэчаў пацярпелі да 10 чалавек. У рэанімацыйнае аддзяленне Столінскай райбальніцы даставілі вучань 9-га класа, яшчэ трое шпіталізаваныя ў Лунінцы і Івацэвічах.

Да ліку надзвычайных здарэнняў аднесены завал дарогі да мытнага пераходу на беларуска-украінскім памежжы «Ніжні Церабяжоў». Яшчэ і 20 ліпеня будынак для вахтавай службы заставаўся абясточаным і без тэлефоннай сувязі з-за абрыву ЛЭП 10 кВ і 6 слупоў сувязі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Масавыя звальненні ў Гомелі

Масавы характар набываюць звальненні на Гомельскім радыёзаводзе. Як паведамляе газета «Рабочая солидарность», на працягу першага паўгоддзя тут былі звольнены 235 чалавек; 93 работнікам афіцыйна паведамлена аб маючым адбыцца скарачэнні; рыхтуецца скарачэнне яшчэ 300 чалавек.

Радыёзавод знаходзіцца ў глыбокім крызісе: даўгі за спажытую электраэнергію дасягнулі паўтара мільярда рублёў, што складае больш за палову гадавы аб'ём вытворчасці; запазычанасць перад бюджэтам перавысіла 500 мільёнаў рублёў; пратэрмінаваны банкаўскі крэдыт на суму 105 мільёнаў рублёў, атрыманы ў 1997 годзе; за нявыплату даўгоў завод адключаны ад крыніцаў прыроднага газу. Па стане на 6 ліпеня выплачана толькі 50% травеньскай зарплаты, што ўдалося зрабіць за кошт атрымання ў банку чарговага крэдыту ў памеры 80 мільёнаў рублёў. Грошай на выплату чэрвеньскай зарплаты няма.

У такой сітуацыі адміністрацыя завода папракае прафсаюз у тым, што ён не дае згоды на масавыя звальненні рабочых. Кіраўніцтва прафсаюза ў сваю чаргу заяўляе, што нельга стабілізаваць эканамічную сітуацыю за кошт звальнення работнікаў; выправіць становішча могуць толькі кардынальныя змяненні ў эканамічнай палітыцы дзяржавы.

**Наталля КУЛАГІНА**

АФІША




## Бруднеюць малыя рэкі

Самы вялікі ўзровень забруджанасці летась назіраўся ў водах ракі Свіслач каля мястэчка Каралішчавічы, у Прыпяці пад Пінскам і на рацэ Ула, што цячэ каля Чашнікаў.

Паводле дадзеных міністэрства прыродных рэсурсаў, індэкс забруджанасці вады ў беларускіх рэках з 1985 года скараціўся прыкладна ў 1,5 раза. Свіслач у гэтым рэйтынгу апошнія 10 гадоў стабільна займае верхні радок. Забруджанасць Прыпяці з 1985 года, калі стан яе водаў быў найгоршы па Беларусі, знізілася і на працягу дзесяцігоддзя захоўвалася на сярэднім узроўні, толькі летась яе ўзровень рэзка ўзняўся.

Досыць заўважна і тое, што разам з паступовым паляпшэннем стану вады на буйных рэках, на рэках паменей ідзе адваротны працэс. Узровень бруду ў водах Улы літаральна за год павялічыўся ў 2 разы. З 2,7 мільярда да 1,7 мільярда кубічных метраў за 10 гадоў скараціліся аб'ёмы спажывання вады па краіне, і адпаведна ў 1,5 раза зменшыліся аб'ёмы скінутых сцёкавых водаў. З-за забруджанасці паверхневых аб'ектаў, агульны аб'ём якіх па краіне складае каля 56 квадратных кіламетраў, большасць вады з сярэдзіны 90-х гадоў пачалі забіраць з падземных крыніцаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

ЗБРОЯ

## Дзед здаў патроны

42.750 патронаў добраахвотна здаў у міліцыю 63-гадовы пенсіянер, жыхар горада Веткі. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, пенсіянер даставіў у міліцыю 5 скрынь з патронамі. Усе яны — спартыўна-паляўнічага прызначэння, калібру 5,6 мм.

Відаць, гэта будзе самым гучным фактам аперацыі па добраахвотнай здачы зброі «Арсенал», якая праходзіць у Беларусі з 1 па 31 ліпеня. Згодна з умовамі аперацыі, усе асобы, якія добраахвотна здалі зброю, вызваляюцца ад крымінальнай адказнасці.

Па звестках прэс-службы УУС, з пачатку аперацыі ў Гомельскай вобласці здадзена 16 адзінак агнястрэльнай зброі, у тым ліку 10 — гладкаствольнай, 4 — наразной і 2 — самаробнай.

Найбольшую актыўнасць праяўляюць жыхары Рэчыцы, Калінкавічаў, Жлобіна і Мазыра.

**Ірына ШАНЦАВА**

АКЦЫІ

## Сексменшасцяў на Кангрэс моладзі не пусцяць

Аргкамітэт Кангрэса беларускай моладзі, які плануецца правесці ў Мінску 29 ліпеня, адмовіў прадстаўнікам Беларускай лігі свабоды сексуальных меншасцяў «Лямбда» ў магчымасці ўдзельнічаць у кангрэсе.

Як паведамілі БелаПАН у савеце лігі, аб сваім жаданні ўдзельнічаць у кангрэсе яны паведамілі раніцай 17 ліпеня, патэлефанаваўшы ў аргкамітэт. У тэлефоннай размове з імі каардынатар аргкамітэта, старшыня арганізацыі Малады Фронт Павел Севярынец заявіў, што асабіста ён супраць удзелу прадстаўнікоў сексуальных меншасцяў у кангрэсе, а таксама дадаў, што пытанне аб удзеле у кангрэсе такіх арганізацыяў, як ліга «Лямбда», павінна вырашацца на пасяджэнні аргкамітэта. Пасяджэнне прайшло ў той жа дзень: большасцю галасоў — восем супраць двух — аргкамітэт прагаласаваў супраць удзелу прадстаўнікоў лігі «Лямбда» ў кангрэсе.

Выступаючы перад галасаваннем, Севярынец выказаўся супраць удзелу прадстаўнікоў сексуальных меншасцяў у маючым адбыцца мерапрыемстве, заявіўшы, што ў іншым выпадку ўлады могуць выкарыстаць гэтую акалічнасць супраць апазіцыі ў перадвыбарнай кампаніі.

**Наталля КУЛАГІНА**

ПРЫРОДА

## «Беларускі куток» у Батсадзе

У Батанічным садзе пры Акадэміі навук Беларусі прыступаюць да ажыццяўлення адмысловага праекта па арганізацыі дэманстрацыйнага і адукацыйнага цэнтра фітадызайну і экалагічнай культуры, а таксама пры ўдзеле Інстытута праблемаў энергетыкі — палігона для выпрабаванняў альтэрнатыўных крыніцаў энергіі.

Грант пад такі праект атрымалі ад ЮНЕСКО памерам 15 тысячаў долараў. Супрацоўнікі Батанічнага саду кажуць, што рэалізацыя дадзенага праекта будзе ісці разам з ажыццяўленнем існуючага плана рэканструкцыі саду. Аднак усе ва унісон гавораць, што на ўсе, нават самыя простыя, задумы грошай ад ЮНЕСКО не хопіць, і неабходна ўнутранае інвеставанне.

Што да альтэрнатыўных крыніцаў энергіі, то плануецца, што гэта будзе палявая лабараторыя з гелеаабагрэвам альбо ветравая помпавая ўстаноўка для басейна. Апрача таго, у Батанічным садзе з'явіцца шэраг новых экспазіцыяў, напрыклад, «беларускі куток» з элементамі біяразнастайнасці, уласцівай традыцыйным беларускім сядзібам, і «экалагічная сцяжына».

Плануюцца рэканструкцыя воднага комплексу і пабудова дэманстрацыйнай аранжарэі з экзатычнымі раслінамі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Расстрэльны пісталет выдаваўся напракат

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

Нашто яму далі дазвол на гэта? Якога вопыту ён там набіраўся: для свайго падраздзялення ці для сябе асабіста? Нагадаем вытрымку з допыту Алега Алкаева ў Пракуратуры: *«мною был поставлен в известность Павлюченко Д., который в условленное время прибыл ко мне в кабинет и вместе со мной присутствовал при расстреле пяти человек, причем находился непосредственно в помещении, где приводят в исполнение приговоры вместе с исполнителями. Из гуманных соображений в целях уменьшения страданий осужденных расстрел производится путем выстрела в затылок из пистолета с глушителем. Павлюченко, присутствуя при расстреле, поинтересовался у исполнителя – почему он не стреляет в сердце? По его мнению, это гораздо эффективнее и не оставляет много крови. Со слов исполнителя, человека опытного, такое заявление мог сделать только человек, который применял вышесказанное на практике».*

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што санкцыяваная В.Шэйманам і Ю.Сіваковым выдача напракат расстрэльнага пісталета прыпадае на той час, калі знікалі названыя вышэй асобы. Калі гэта супадзенні, дык тым болей яны патрабуюць расследавання.

## Загадчыкі пакрываюць выканаўцаў?

У рапарце Лапаціка на імя Навумава ўтрымліваюцца радкі, наўпрост указваючыя на непасрэдную прыналежнасць да знікнення і забойстваў людзей В.Шэймана і Зм.Паўлючэнкі. Лапацік цвердзіць, што *«Шейман В.В. дал указание Павлюченко физически уничтожить бывшего министра внутренних дел Захаренко Ю.Н. Информационное обеспечение местонахождения Захаренко для действий Павлюченко было обеспечено спецподразделением Васильченко Н.В., задание на которое ему также дал Шейман В.В. через своих сотрудников».* Аперацыю правodзіў Паўлючэнка разам з чатырма байцамі 1-ай роты спецназу. Пазней па аналагічнай камбінацыі *«Павлюченко провел акцию захвата и уничтожения Гончара В.И. и Красовского А.С. Место захоронения трупов Захаренко Ю.Н., Гончара В.И., Красовского А.С. спецучасток номерных могил на Северном кладбище».*

Гэтая інфармацыя (разам з тым, што там жа знаходзіцца і труп забітага Завадскага) пацвярджаецца і прызнаннямі месячнай даўнасці следчых Пракуратуры Случака і Петрушкевіча.

Што пасля абнародавання гэтай жудаснай інфармацыі можа абазначаць маўчанне ў атачэнні Аляксандра Лукашэнкі? Чаму не прыцягваюцца да адказнасці за паклёп, калі гэта паклёп, Лапацік і Алкаеў? Чаму не спраўджваецца змест прадстаўленых У.Ганчарыкам копіяў дакументаў? Чаму на волі Паўлючэнка, якога было ўжо арыштоўвалі па гэтых справах супрацоўнікі КДБ пры Уладзіміры Мацкевічу ды адпусцілі? Чаму ўлады па-ранейшаму не жадаюць заняцца скасаванай па звальненні старшыні КДБ і генпракурора Алега Бажэлкі адмысловай эксгумацыйнай працэдурай на Паўночных могілках?

Ці не таму, што Пракурорам зараз згаданы ў апублікаваных дакументах Віктар Шэйман, якога Лукашэнка і паставіў на гэтую пасаду ці не з мэтай не даваць ходу сапраўднаму расследаванню знікнення Ганчара, Завадскага, Захаранкі і Красоўскага? Апрача таго, на высокія дзяржаўныя пасады – пад непасрэдны нагляд – пасля некаторага прастою вернутыя і яшчэ некалькі асобаў, якія б маглі расказаць тое-сёе, што ведаюць. У.Мацкевіч – пасол у Югаславіі, Ю.Сівакоў – намеснік кіраўніка ў адміністрацыі прэзідэнта.

Сівакоў, той нават кінуўся бараніць добрага хлопца Зміцера Паўлючэнку, маўляў, гэта прыстойны чалавек ды яшчэ інтэлектуал.

Уладзімір Навумаў таксама яго бароніць: нібыта па справе аб знікненні Завадскага «Паўлючэнка ніяк не праходзіць. Нават блізка». Што да лёсу Захаранкі і Ганчара, паводле міністра, «для ўлады аптымальна ўсё-такі разабрацца. Але, паўтараю, не ўсе крымінальныя справы і ў нашай краіне, і ў іншых краінах вырашаюцца дастаткова хутка». Натуральна, калі імі не займацца як след, а яшчэ і хаваць праўду.

Цяпер сітуацыя такая, што гэта не проста прэса піша, што целы зніклых людзей ляжаць на Паўночных могілках Мінска. Зараз звесткі пра страшную таямніцу Паўночных могілак паўстаюць у дакументах самога МУС. Няўжо і цяпер міністр унутраных справаў Беларусі праігнаруе расследаванне?

Грамадства не мусіць давяраць чыноўнікам, якія за сценамі міністэрства жывуць нейкім дзіўным жыццём – выдаюць для нейкай няўрочнай работы прыладу смерці, чытаюць рапарты пра «фізічнае знішчэнне» вядомых людзей, а ўголас кажуць, што нічога не ведаюць. У атмасферы такога дзяржаўнага крыміналу і хлусні пагроза існуе жыццю кожнага чалавека.

Бо расстрэльны пісталет у нас выдаецца калі заўгодна і каму заўгодна напракат.

**Аддзел інфармацыі**

● Юрый Захаранка і Віктар Шэйман

● Віктар Ганчар

● Анатоль Красоўскі

● Генерал Ю.Сівакоў вітае строй падначаленых (здымак з архіву)

Фота IREX/ProMedia

● З.Паўлючэнка – камбрыг СОБРу, «інтэлектуал», па словах кіраўніка МУС Ю.Сівакова

ВЫБАРЫ

# Как нам выбрать перед выборами?

Есть люди, которые совершенно серьезно полагают, что для выборов нового президента страны имеет значение лишь сумма денег, затраченная на его продвижение во время избирательной кампании. Распространению этой точки зрения весьма активно способствует нынешняя государственная философия беспредельной наглости и полного отсутствия моральных принципов. Косвенно или прямо она воздействует на все общество, окончательно и бесповоротно развращая его. Главное мерило в этой шкале ценностей – деньги. Деньги, как считают адепты этой философии, лежат в основании жизненной пирамиды и формируют действительность.

Не собираюсь вступать в отвлеченные споры, но хочу обратить ваше внимание на одно примечательное обстоятельство. Посмотрите на бесполезные усилия команды Лукашенко, которая из кожи вон лезет, используя весь административный ресурс, все внебюджетные фонды, все подконтрольные СМИ, весь государственный репрессивный аппарат, чтобы достичь к 9 сентября пятидесятипроцентного оболванивания населения. Эту атаку невозможно перевести в денежное выражение. Цифры получаются просто астрономические. И что в результате? По всем выкладкам Лукашенко имеет свои двадцать процентов кристаллизованного электората – людей, которые при всех обстоятельствах проголосуют за него. Это категория людей иррациональных, зомбированных или имеющих конкретные выгоды от нынешнего режима. И на этом все. Дальше у Лукашенко начинается головная боль.

А вот вам самый свежий пример денежной атаки на белорусов бывшего сподвижника Лукашенко, а ныне его дружеского критика – г-на Синицына. Ни у кого из обычных кандидатов на президентское кресло нет такой охраны, таких автомобилей, таких костюмов, такой обуви, такой штаб-квартиры, такой косметики, таких причесок, таких зарплат и таких наличных денег. Сам г-н Синицын еще бодр и резв, активно лезет на рожон, мелькает по российскому телевидению, публично ругается матом, по каждому поводу и без повода выступает с заявлениями и публикует их везде, строит интриги и втихаря пускает на соперников муть и тину. И что имеет этот великолепный г-н в результате? По последним социологическим данным его рейтинг пульсирует в пределах от 0,9 до 1, 2 процента. Стоит ли овчинка выделки?

Словом, как деньги ни люби, все равно приходишь к морали. И у Лукашенко, и у его друга Синицына, кроме денег, есть еще отвратительнейшая репутация, которая тянет на дно все их деньги, вместе с обладателями.

Между тем если вспомнить хорошенько 1994 год, то окажется, что тогда для победы на президентских выборах большие деньги не понадобились. Деятели избирательного штаба Лукашенко, включая господ Булахова, Федуту, Синицына и т.д., до сих пор невероятно гордятся этим обстоятельством. Оно как бы подчеркивает их профессионализм и незаурядность. Рискну сделать заявление от себя лично, что **для победы демократического кандидата на выборах в Беларуси в сентябре 2001 года достаточно той же финансовой суммы, которая когда-то пошла на Лукашенко. При условии, что в стране будут действовать те же законы и правила приличия.** И особого профессионализма для этого, кстати, не потребуется. Достаточно довести до сведения людей правдивую информацию о власти. Когда-то Кебича утянула на дно его скверная репутация. Теперь пришла очередь Лукашенко.

Таким образом легко опровергается миф о деньгах, как главной движущей силе избирательного процесса. На самом деле деньги в нашей стране нужны лишь для того, чтобы уменьшить или обойти дикое сопротивление иезуитской законодательной базы и бесконечное насилие государства на правами и свободами гражданина. Сопротивление той системы, которую создали в Беларуси любители шальных государственных денег, пришедшие когда-то к власти без денег и при достаточно справедливых законах. Именно они создали затем свой корпоративный защитный барьер, преодоление которого требует таких колоссальных усилий.

Но вот во время выборов в палату №2 к этому барьеру подходит один из его основателей – г-н Пласковицкий – бывший придворный юрист и редкий служака. Бессмысленно потоптавшись поблизости, он уходит куда-то вдаль несолоно хлебавши. Он пишет жалобы в некие инстанции, критикует самим собой написанные законы и негодует. Изнутри системы его работа выглядела стройной и логичной. Снаружи она кажется ужасной и несправедливой.

Примерно те же ощущения сейчас и у г-на Синицына. Вначале он упорно создавал весь этот государственный бардак, ложился костями в его фундамент, а теперь прозрел, отрезвел, поумнел, одумался и кроет последними словами свою прежнюю работу.

Близорукие, недалекие, малограмотные, бессовестные, беспринципные, аморальные, ограниченные люди считают себя крутыми политиками, элитой, избранными, а сами не могут просчитать ближайшие результаты своей собственной деятельности. Выходцы из питомников коммунистической номенклатуры, они умеют действовать только по своим собственным правилам, полностью оторванным от требований жизни. Многие из них очень слабо разбираются в людях, вопросы решают интригами и при помощи шушуканья в бюрократических кабинетах.

И вот – новый рубеж. Семь лет мы старались изменить ситуацию, создать условия для победы демократического кандидата. И это получилось. Сейчас нам нужно доверить флаг очень надежному человеку, который готов идти до конца и не устрашится никаких опасностей. Человеку с хорошей динамикой, с запасом сил, с психологией победителя. И что же? Тут как тут выскакивают из небытия некие сомнительные персоны с готовыми предложениями об услугах. Они уже готовы возглавить наше движение к свету и добру. У них есть готовые номенклатурные рецепты. Их виртуальный мир не приемлет действительности. Им сильно не нравится борющаяся оппозиция именно потому, что она реальна. В укор кандидату они ставят то обстоятельство, что его готовы поддержать люди из действующих политических партий и организаций. Они уже посовещались в каком-то своем узком кругу, пошушукались в каких-то темных коридорах. Они уже выбрали нам лидера. И никто не задается вопросом: а сможет ли, способен ли именно этот человек победить в такой серьезной схватке за власть? Есть ли у него опыт такой борьбы? Вопрос о качествах победителя незаметно подменяется вопросом о его поддержке номенклатурой и о деньгах. Будто деньги способны победить сами по себе, а номенклатура сможет каким-то необыкновенным образом повлиять на избирателей в ущерб Лукашенко. Не иллюзия ли все эти обещания?

**Очень похоже на то (дай Бог ошибиться!), что мы снова идем по одному и тому же кругу, окончательно убивая веру людей в перемены и надежды на лучшую жизнь. Сегодня, сейчас, в эту минуту мы, возможно, делаем самую большую ошибку последних семи лет, принимая за лидера его мутное виртуальное изображение.**

**Александр ДУБРАВИН**

